# 1994

Фота з архіва БЕЛІНФАРМа, Аляксандра ХІТРОВА, Эдуарда КАБЯКА і Сяргея БРУШКО.



ПАМЯЦЬ

# Жак з "Нармандыі-Нёман"

□ **Мікалай БОРЦІЧ, ветэран працы, краязнаўца**

*У час Вялікай Айчыннай вайны ў савецкіх войсках ваявалі французскія лётчыкі — добраахвотнікі знішчальнага авіяпалка "Нармандыя–Нёман". Сярод іх быў Жак Гастон.*

Выпускніка ваеннай авіяцыйнай школы сяржанта Гастона накіравалі ў Афрыку. У Аране яго застае капітуляцыя Петэна. Ён вырашае змагацца за вызваленне сваёй радзімы. Спробы ўцячы ў Англію, дзе знаходзілася кіраўніцтва "Свабоднай Францыі", закончылася няўдачай. Не ўдаецца спроба з двума таварышамі пераляцець на захопленым самалёце на англійскую базу ў Гібралтар. Адзіночная камера аранскай турмы Санта-Крус: месяц строгага арышту. Пераапрануўшыся арабам, спрабуе дабрацца да Гібралтара, але на граніцы яго затрымліваюць. Ваенна-палявы суд. Улічваючы яго маладосць — 3 гады зняволення. Вызваляе саюзная амерыканская армія. Яму прысвоена званне малодшага лейтэнанта, і яго просьба аб пасылцы ў СССР задаволена. Праз Алжыр, Егіпет, Іран ён прыбывае ў Тулу для папаўнення эскадрыллі "Нармандыя", каб прыняць удзел у сумеснай барацьбе супраць агульнага ворага.

У маі ён— на фронце. Зрабіў 11 баявых вылетаў, збіў у пары з другім пілотам два варожыя самалёты. 26 чэрвеня 1994 г. у пары з другім пілотам ён суправаджаў нашы бамбардзіроўшчыкі. Лётчык "Нармандыі" Франсуа дэ Жофр у сваёй кнізе "Нармандыя-Нёман" так апісвае бой:

"У 8 гадзін вечара, калі змрок яшчэ не спусціўся на зямлю, полк "Нармандыя" робіць баявы палёт у поўным саставе. Лётчыкі атрымліваюць заданне блакіраваць з паветра Барысаў, да ўскраін якога падышла Чырвоная Армія.

Нямецкія знішчальнікі вісяць у паветры. Немцы застаюць знянацку Лемара і Гастона. У Лемара пашкоджана кіраванне, у фюзеляжы самалёта — велізарная прабоіна. Самалёт Гастона пашкоджаны больш сур'ёзна. Ён пераварочваецца ў паветры, пакідаючы за сабой дымны след. Мы не спускаем з яго вачэй. Секунда — і ўсё скончана. Нашы сэрцы напаўняюцца гневам і злосцю. Бывай, Гастон! Муане за некалькі секунд ператварае нямецкі знішчальнік у пылаючы факел. Гэта помста за Гастона..."

Пілот з самалёта не выскачыў (ён, напэўна, быў забіты або цяжка паранены). Самалёт упаў у раёне, які быў заняты немцамі. У гэтым баі вораг страціў пяць самалётаў. Пасля вызвалення гэтай тэрыторыі пошукі месца падзення французскімі лётчыкамі не далі вынікаў. Высветлілася, што самалёт упаў у раёне Бабра, на ўсход ад Барысава. Такое паведамленне атрымалі бацькі Жака.

31 ліпеня штурмам быў узяты водны рубеж Нёман, і французскі добраахвотны полк пачаў называцца "Нармандыя-Нёман".

За баявыя справы генерал дэ Голь узнагародзіў Жака Гастона Ваенным крыжам з пальмавай галінкай. Адзначаны ён і ваенным медалём Францыі. А ў 1945 г. у савецкім пасольстве ў Парыжы бацькам Жака ўручылі ордэн Айчыннай вайны II ступені.

Праз 20 гадоў пасля гібелі Жака Гастона карэспандэнт газеты "Мінская праўда" на працягу двух гадоў вёў краязнаўчы пошук, у ходзе якога атрымаў шмат матэрыялаў, дакументаў, фотаздымкаў. Генеральны сакратар асацыяцыі ветэранаў палка "Нармандыя-Нёман" І.Эйхенбаўм напісаў артыкул "Жыццё і смерць Жака Гастона", даслаў партрэт лётчыка. Школьнікі і моладзь Барысава завязалі перапіску з маці Гастона (бацька памёр у 1956 г). Яны даведаліся аб Гастоне амаль усё, акрамя месца гібелі.

З дапамогай навучэнцаў з вёскі Аўхуты Талачынскага раёна, якія чулі ад старэйшых расказ аб збітым самалёце і пілоце ў іншаземнай форме, даведаліся, што самалёт упаў у балота. Навучэнцы спрабавалі баграмі выцягнуць што-небудзь, каб разгадаць тайну. Пазней з балота была паднята паўабгарэлая куртка з пасведчаннем асобы, падпісанае "Пронін". Гэта пацвердзіў Пронін, які ў гады вайны быў начальнікам Ваенна-Паветраных Сіл Заходняга фронта і 1-й Паветранай арміі.

Дапамаглі сапёры Беларускай ваеннай акругі, якія за шэсць дзён працы з глыбіні чатырохметровай багны дасталі розныя вузлы самалёта, патроны, снарад 20-міліметровага калібра, абрыўкі курткі і рухавік. Па нумары рухавіка былы старшы інжынер часці С.Д.Агавельян пацвердзіў прыналежнасць самалёта Ж.Гастону.

У Францыі быў адліты памятны медаль палка "Нармандыя-Нёман", праведзена нацыянальная латарэя ў гонар лётчыкаў, на білеце якой змешчаны партрэт Жака Гастона, у Барысаве адна з вуліц носіць імя "Нармандыя-Нёман". У Барысаўскім краязнаўчым музеі ёсць экспазіцыя, прысвечаная палку "Нармандыя-Нёман" і Ж.Гастону. У 9-й СШ г.Барысава існуе выдатны музей "Нармандыя-Нёман", у якім шмат дакументаў і матэрыялаў аб палку і Гастоне, пісьмо маці патрыёта школьнікам.

Вучні 9-й школы вядуць перапіску з былымі лётчыкамі палка, з роднымі і блізкімі загінуўшых. Вось што піша ім маці Ж.Гастона: "Жак не памёр, таму што памяць пра яго захоўваецца у вашых юных сэрцах. Калі б мне давялося выбіраць другую Радзіму, я выбрала б Беларусь". Александрын Гастон стала для барысаўскіх рабят "мамай Жака". Аднойчы Гастон атрымала невялікі пакет. Зваротны адрас напісаны па-французску: Беларуская ССР, горад Барысаў, сярэдняя школа № 9. Там было гукавое пісьмо. Гастон слухала дзіцячы голас!

"Мама Жака! — звярталася да яе незнаёмая беларуская дзяўчынка. — Вы страцілі адзінага сына, але ведайце, што вы не адзінокія. Сёння вы нябачна прысутнічаеце на нашым зборы, а заўтра ў нашай школе будзе адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар вашага сына. Імя Жака Гастона выгравіравана залатымі літарамі. Ён загінуў у паветраным бai пры вызваленні нашага горада, і памяць пра яго гэтак жа дарагая для нас, як памяць аб савецкіх людзях, якія аддалі жыццё ў барацьбе супраць фашызму..."

**Барысаўскі раён.**

КРЫНІЦЫ

# Крывёю сэрца

□ **Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ**

Вайна і музы. Здавалася б, няма больш супярэчлівых паняццяў. Мусібыць, старажытныя рымляне недаравальна памыліліся, сцвярджаючы, што быццам музы маўчаць, калі гаворыць зброя. Далейшая гісторыя, многія старонкі якой напісаны агнём войнаў і рэвалюцыйных паўстанняў, папраўіла гэтую памылку. У часіны трывог і грозных выпрабаванняў для народаў ледзь пачыналі гаварыць гарматы, музам давялося падаваць голас, гнеўна абурацца супраць ліхадзеяў, абараняць справу міралюбівых...

Не хацелі маўчаць музы і ў гады барацьбы з фашызмам, ад чаго нас аддзяляе ўжо амаль цэлае пяцідзесяцігоддзе.

Многа каму з беларускіх паэтаў давялося да самага донца выпіць горкую паходную біклагу на дарогах вайны. Некаторыя навечна згаслі, спяць у брацкіх магілах, і сёння невядома, дзе яны, гэтыя магілы, — пад Брэстам, у данскім стэпе, над Волгай, за Дунаем ці Одэрам...

У час Вялікай Айчыннай вайны пяро пісьменніка было прыраўнавана да штыка: "Няхай жа наша газетнае слова і слова мастака-пісьменніка б'юць, як востры меч, як трапная куля снайпера-чырвонаармейца двуногіх фашысцкіх звяроў", — пісаў Якуб Колас. У партызанскіх пушчах, у акопах і на баявых караблях воіны і лясныя салдаты чулі грамадзянскі голас пісьменнікаў. Невядомы партызан у лісце, дасланым з акупіраванай гітлераўцамі Беларусі, пісаў, што антыфашысцкія творы Купалы вядуць "на бой нашых патрыётаў, яны побач з самай грознай партызанскай зброяй".

Многія мастацкія і публіцыстычныя творы І.Мележа, А.Куляшова, П.Броўкі, М.Танка, П.Панчанкі, А.Вялюгіна, А.Бачылы, М.Сурначова, А.Коршака, А.Жаўрука, Л.Гаўрылава, Зм.Астапенкі, А.Гейне, А.Ушакова, А.Бялевіча, А.Астрэйкі, П.Пранузы і іншых пісьменнікаў малодшага пакалення нараджаліся ў кароткім зацішшы між баямі, друкаваліся ў "Известиях" і "Комсомольской правде", у "За Савецкую Беларусь" і "Чырвонай змене", у газеце-плакаце "Раздавім фашысцкую гадзіну", у франтавых, партызанскіх і падпольных выданнях, клікалі на барацьбу з фашызмам.

Творы паэтаў, якія аддалі жыццё за Радзіму... Мы многім абавязаны ім за іх воінскі подзвіг і абавязаны іхняй песні, непаўторнай і незабыўнай, душэўна і паэтычна важнай. Гэта адна з самых дарагіх і святых старонак нашай паэзіі. І самых балючых. Нават калі чытаеш светлыя, прамяністыя радкі з іх даваеннага "шырокага ранку" — як хараша і прыгожа яны ўваходзілі ў жыццё і паэзію! — не можаш пазбавіцца ад смутку як дачасна абарваліся маладыя жыцці! Як многа маглі яны яшчэ стварыць сапраўднага, важкага!

Леаніду Гаўрылаву, Аркадзю Гейне было па 23 гады, Аляксею Коршаку, Уладзіміру Рагуцкаму — 24, Алесю Мілюцю — 26, Міколу Сямашку і Міколу Сурначову — па 27, Рыгору Жалезняку — 28, Андрэю Ушакову, Янку Бобрыку — 29... Алесю Жаўруку, Змітраку Астапенку, Змітро Віталіну толькі перасягнула за 30. Назаўсёды засталіся яны ў гэтым узросце, і вершы, якія былі, па сутнасці, яшчэ толькі пачаткам, абяцаннем, сталі іх пасмяротнай спадчынай. Няма цаны гэтай спадчыне, бо подпісы пад ёй у канцы зроблены крывёю сэрца.

Кожны з маладых паэтаў добра адчуваў перад вайною сваё месца ў гераічным і трывожным часе як месца адказнае, кожны ўсведамляў свой галоўны абавязак, які гісторыя вось-вось ускладзе на іх маладыя плечы. Нездарма так рашуча і ўпэўнена гаварылі яны пра сваё месца ў страі, нездарма загадзя мужна, ахвярна прадвызначалі ўласны лёс.

...І ў светаўспрыманні, душэўным ладзе, паэтычнай прыўзнятасці, рамантычнай акрыленасці іх твораў было шмат агульнага. Але хораша высвечвала ў кожнага і сваё, адметнае. Спеўны верш, мяккая летуценнасць А.Жаўрука; бадзёрая і стрыманая танальнасць вершаў А.Ушакова; гарманічная з'яднанасць парыванняў і засяроджанасці ў М.Сямашкі; тонкая паэтычнасць Л.Гаўрылава; прыгожая суладнасць пачуццяў з навакольным светам А.Коршака...

Чытаеш і адчуваеш у кожным выпадку— гэта былі б крылы для высокага і шчырага палёту...

Іх вершы адкрывалі ўнутраны свет цудоўнага пакалення, выявілі асаблівую сардэчную цеплыню, радасць, рашучасць, лепшыя народжаныя новым часам якасці нашай моладзі, узбагацілі псіхалагічны лад і ўнутраны змест усёй беларускай лірыкі.

І вось настаў час выпрабаванняў. Тое, што ў даваенных вершах маладых паэтаў часам магло здавацца рыторыкай, дэкларацыйнасцю, было пацверджана аддадзеным за Радзіму жыццём.

Па некалькі разоў былі паранены за час вайны многія пісьменнікі-франтавікі, але пасля лячэння яны зноў і зноў станавіліся воінамі, вярталіся на перадавыя пазіцыі, каб штыком і пяром біць фашыстаў.

На легенду падобны лёс Змітрака Астапенкі. У пачатку трыццатых ён выдаў некалькі зборнікаў вершаў, напісаў навукова-фантастычны раман "Вызваленне сіл" аб расчапленні атама. Тады ж Астапенка быў двойчы незаконна арыштаваны і асуджаны ў 1937 на восем год зняволення. Перад вайной ён уцёк з сібірскага лагера. Вандруючы па краіне, увесь час мяняючы месца работы, Зм.Астапенка пісаў у розныя інстанцыі, сцвярджаючы, што ўцёк дзеля таго, каб даказаць: ён сапраўдны патрыёт і гатовы аддаць жыццё за Савецкую Радзіму... І адбылося нешта неверагоднае — нечая добрая душа паверыла ўцекачу. Астапенка быў узяты ў армію, а пасля накіраваны са спецыяльным заданнем у варожы тыл.

Перад адлётам Зм.Астапенка напісаў эпічную паэму "Эдэм". 7 кастрычніка 1944 года Астапенка даслаў у Маскву пісьмо сваім родным: "Вакол мяне крутыя горы. Схілы гор парослі елкамі і букам. Цяпер сонца. Учора, пазаўчора хмары чапляліся за нашы палаткі. Ішлі дажджы... Колькі хваляванняў. Напрыклад, пералёт цераз лінію фронту. Парашутны скачок у горныя лясы і шмат іншага... Мае родныя! Напэўна, пасля гэтага пісьма я надоўга не буду мець магчымасці напісаць вам. Хай вас гэта не бянтэжыць... Зараз іду пешкі ў горы, насустрач небяспецы, у агонь барацьбы. Я ніколькі не баюся небяспекі, ненавіджу ворага, люблю вас, мае родныя. Чакайце!"

Пісьмо было апошнім. Чырванапрэсненскі райваенкамат Масквы паведаміў жонцы, што "Дзмітрый Емяльянавіч Астапенка, знаходзячыся на фронце, прапаў без вестак у кастрычніку 1944 года". Ёсць меркаванне, што ён загінуў у Славакіі...

У час вайны Беларусь наракл і краінай-партызанкай. Беларускі лясны фронт вядомы ва ўсім свеце. Партызаны займалі 60 працэнтаў тэрыторыі Беларусі. Бралі гарады. У лясах працавалі школы. У падпольных друкарнях выдаваліся газеты і кнігі паэзіі. Салдатамі ляснога фронту былі многія пісьменнікі. Некаторыя з іх загінулі. Расстраляны карнікамі паэт Алесь Дубровіч, які з самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны быў падпольшчыкам...

На мемарыяльнай дошцы ў будынку Саюза пісьменнікаў Беларусі ўвекавечаны імёны празаікаў і паэтаў, што аддалі жыццё ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Іх дваццаць два. Іх няма сярод нас. Яны загінулі смерцю храбрых... З пашанай і хваляваннем чытаеш сёння іх вершы, паэмы, апавяданні, дзённікі, франтавыя лісты — суровую споведзь гераічнага пакалення.

*Леанід ГАЎРЫЛАЎ*

### ЦІШЫНЯ

Цішыня над полем і над лесам,
і на хаты пала цішыня.
Сінім небам — месячык бялесы,
сінім небам — грае вышыня.

І плыве, як грэчкі пах мядовы,
і плыве, як васільковы пах,
ціхі смутак зеленагаловы
па вачах любімых, па губах.

Наш рубеж акованы гранітам
і напят, як тонкая струна.
Ды спрабуй струну тую крані ты —
адзавецца грукам перуна.

А пакуль спакойны зарaніцы,
п'юць расу палеткі на зары, —
сцерагуць свяшчэнную граніцу
ўсе таварышы, усе мае сябры!

Вось таму над лугам, над садамі
і на воды пала цішыня,
і дарог мядзянымі слядамі
пабрыла нямая даўжыня.

**1941 г.**

*Алесь ЖАЎРУК*

### "РУЖА"

А ці міг, ці век — не знаў ніхто там,
калі моўчкі праляжалі мы
на краі сыпучага сумёта
пасярод марознае зімы.

Толькі раптам лютаўская сцюжа
адступіла быццам, адлягла.
Чую і не веру сам я — "Ружа":
"Ой, расцвіла ружа, расцвіла..."

Азірнуўся: ціха ў задуменні
сам сабе спявае зампаліт.
Слухаем. І нікне поўнач ценем,
іншыя ўстаюць хлапцам палі.

Случчына каму, каму ў песні
Амсціслаўшчына яго ўстае,
мне ж — рачэнскі край, маё Палессе,
вербы, вочы ясныя твае.

І ўзбек, сусед мой, вочы мружыць
(што ён прыгадаў у той цішы?),
слухаў, слухаў і ўсміхнуўся: "Ружа.
Ружа, — зноў ён паўтарыў, — якшы".

І да самае атакі потым
больш не думалі аб сцюжы мы
на краі сыпучага сумёта
пасярод марознае зімы.

Так заўжды хвілінамі цяжкімі
саграваеш ты, Радзіма, нас
зор сваіх святлом, вялікім імем,
шчыраю парадай у добры час!

Вестачкі паштоўкі нечаканай,
пачкам папярос, здалёк прысланым,
песняю сардэчнаю сваёй,
проста думкай аб табе адной.

**1942 г.**

*Аляксей КОРШАК*

### ПАРАНЕНЫ

От і ўсё. За светлы край азёрны,
за вясну ў палёх,
неба сіняе ў кроплях зорных
я навек тут лёг.

Нада мной шуміць ракіта кволая,
пада мной трава.
Сыплецца на сэрца невясёлая
злой тугі жарства.

Бачу неба сіняе і блізкае
ў астатні раз.
Меншыцца яно, маланкай бліскае,
пачарнела ўраз.

Дзесьці плача кнігаўка... Ці маці...
Мама, бліжай сядзь.
Хочу глянуць, хоць крыху абняці —
галавы не ўзняць.

Што ж ты не прытулішся, матуля?
На мяне хоць глянь, —
гіне сын героем твой ад кулі,
каб квітнела рань.

Што з табою? Плачаш? З воч блакіту
цэлы лівень слёз.

• • • • • • •

Я расплюшчыў вочы. Спіць ракіта,
Дождж шуміць між лоз.

Плача кнігаўка ўгары, як маці
па дачцы ў труне.
Птушанька мая ты, кінь рыдаці,
не шкадуй мяне.

Я б навек закрыў спакойна вочы,
каб мой любы край
больш не ведаў злой пакутнай ночы,
красаваў, як май.

Каб хадзіў навокал спеў мінорны,
што я ў бітве лёг
за прыгожы родны край азёрны,
за вясну ў палёх.

**1942 г.**

*Змітрок АСТАПЕНКА*

* * *

Паклянёмся любіць наш край!..
Паклянёмся, што ў нашыя сэрцы
не ўкрадзецца ні страх,
ні адчай, ні сполах немінучае смерці.

Мы ў гэтым кляліся калісь —
у гады залатога юнацтва.
Гэты час і пара надышлі —
клятвы нашыя мусяць спагнацца.

Той хто вырас на гэтай зямлі,
хто ўсмактаў яе цяжкія сокі, —
ведай: час і пара надышлі
на геройства, на подзвіг высокі.

І цяпер, калі грому гармат
кулямёт падпявае па-брацку,
успомні брата забітага, брат,
успомні, сын, скатаванага бацьку!

Будзем помніць, як цяжкі кашмар,
як баёў і нягоды выснову —
ненавіснага ворага твар,
ненавісную ворага мову.

Паклянёмся Радзіму любіць!
Яна з верай на нас пaглядае.
У нашых сэрцах жыве й будзе жыць
наша даўняя клятва святая!

**1943 г.**

КУР'ЕР "ЧЗ"

## Партызанская балада

*У вёсцы Старое Сяло — цэнтры саўгаса "Пціч" Мінскага раёна адбылася традыцыйная сустрэча былых партызан і падпольшчыкаў партызанскай брыгады імя Чкалава, якая ў гады вайны і акупацыі дзейнічала ў гэтым раёне.*

Сустрэча пачалася з ускладання вянкоў да могілак загінуўшых і пахаваных на беразе ракі Пціч першых партызан і падпольшчыкаў Старасельшчыны. Затым адбыўся мітынг, пасля якога ветэраны падзяліліся ўспамінамі за святочным сталом.

**Аляксандр ХАЦКЕВІЧ, былы партызан, прафесар Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі.**

## "Баграціён" у Бешанковічах

*У Бешанковічах адбыўся раённы злёт удзельнікаў беларускай аперацыі "Баграціён", якіх тут сорак пяць чалавек.*

Ветэраны вайны падзяліліся ўспамінамі.

## Кніга гонару і болю

*Падыходзіць да завяршэння работа над кнігай "Памяць. Лепельскі раён", якую вядзе невялікі калектыў мясцовага краязнаўчага музея.*

Багата матэрыялаў сабрана па гісторыі Лепельшчыны як нядаўняй, так і XVI, XVIII, XIX стагоддзяў. Знайшлося тут месца для Вялікай Айчыннай і фінскай войнаў. Застаецца яшчэ скласці спісы мірных жыхароў, якія загінулі за час акупацыі.

## У войска з... дома інвалідаў

*Самадзейны эстрадны калектыў Аршанскага культурна-рэабілітацыйнага цэнтра Беларускага таварыства інвалідаў па зроку гастралюе па воінскіх часцях. Нядаўна яны далі ў адной з воінскіх часцей канцэрт, прысвечаны пяцідзесяцігоддзю вызвалення Оршы ад фашысцкіх захопнікаў.*

Сувязі з воінамі самадзейныя артысты мяркуюць развіваць і надалей.

## Праз пяцьдзесят гадоў

*ветэраны-партызаны наведалі Ушаччыну, прайшліся па месцах сваіх баявых дзеянняў. Яны пабывалі на мемарыяльным комплексе "Прарыў", дзе паўстагоддзя таму высілкамі шаснаццаці партызанскіх брыгад пасля месячнай блакады было прарвана варожае акружэнне, наведалі магілу легендарнага камбрыга Данукалава.*

Суправаджалі ветэранаў вучні мясцовых школ. Разам ускладвалі на магілы вянкі і жывыя кветкі.

**Уладзімір МІХНО.**

## Юныя сэрцы пра вайну

*Аршанскі гарадскі аддзел адукацыі правёў конкурс юных паэтаў, прысвечаны 50-годдзю вызвалення Беларусі.*

18 навучэнцаў сярэдніх школ, якія спрабуюць свае сілы ў паэзіі, удзельнічалі ў ім. Пераможцы конкурсу ўдастоены ганаровых грамат выканкама гарадскога аддзела адукацыі.

**І.КАГАН.**

## Зноў бai. Спартыўныя

*Прайшоў адкрыты чэмпіянат Маладзечаншчыны па кікбоксінгу, прымеркаваны да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у якім прынялі ўдзел больш за 50 спартсменаў.*

На ўрачыстае адкрыццё былі запрошаны ветэраны вайны і спорту. Правялі тут паказальны бой і госці — кікбаксёры вядомага ў рэспубліцы мінскага клуба "Дынама".

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

50

